# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 2 (1548) ГОД XXXI БЕЛАСТОК, 12 СТУДЗЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.




Гэтая царква стаіць у Мастаўлянах на гэтым жа ўзгорку ад 1862 года.

## СЛАЎНАЯ ВЁСКА МАСТАЎЛЯНЫ

Вёска Мастаўляны, што на рэчцы Свіслач, увайшла ў гісторыю з імем Кастуся Каліноўскага, аднаго з правадыроў паўстання 1863 года, які 21 студзеня 1838 года нарадзіўся ў тутэйшым маёнтку, каб на 26 годзе свайго бурлівага жыцця развітацца са светам на царскай шыбеніцы ў Вільні.

*

Зараз жа за хлявамі і гумнамі даволі крутым спадам зыходзяць у даліну мастаўлянскія агароды, якія абапіраюцца амаль у рэчку Свіслач, а па рэчцы праходзіць дзяржаўная граніца. Тут канчаецца Польшча, а пачынаецца Савецкі Саюз.

*

Гадоў пяць таму назад давялося мне пабываць у Мастаўлянах на пахаванні аднаго з тамашніх сялян, сын якога, настаўнік па прафесіі, ажаніўся з жончынай пляменніцай. У царкве ішло адпяванне паніхіднага малебна, а я стаяў, галаву звесіўшы, з вачыма ўбітымі ў адшліфаваную драўляную падлогу. І раптам... Божа, ледзь устрымаўся, каб не крыкнуць, што адкрыў, як мне здалося, вялікую тайну! Ля маіх ног падлога прымацавана была драўлянымі цвікамі. Гэта ж наяўны доказ старажытнай даўнасці гэтай пабудовы! Забыўшыся аб паніхідзе, я з цікавасцю адкрывальніка пачаў разглядаць усё іншае абсталяванне Мастаўлянскай царкоўкі. Так, бясспрэчна, гэта каштоўны помнік культуры нашага Беластоцкага краю!

*

Хацелася даведацца больш пра гісторыю Мастаўлянскай царквы. Пачаў я капацца ў старых паперах. І вось у „Літоўскіх епархіяльных ведамасцях" ад 30 верасня 1864 г. (№ 18) трапіў я на даволі абшырную (амаль 20 старонак друку) „Заўвагу аб пабудове цэркваў Мастаўлянскай і Лашанскай і аб рамонце Дзерачынкаўскай царквы Гродзенскага уезда". Аказваецца, што царква ў Мастаўлянах існавала ўжо да адмены уніі ў 1839 г. На рамонт царквы ў Мастаўлянах спатрэбілася 357 рублёў 15 капеек. Сума на гэты час вельмі вялікая. Была яна разложана на казённых і памешчыцкіх мужыкоў. Заказ на рамонт ад мясцовага памешчыка прынялі два майстры-немцы. Абодва яны прагна курылі люлькі. І ад гэтага, мабыць, 10 ліпеня

(Працяг на стар 6)

## ГРАМАДАЎСКІ ДЗЕНЬ

Нямнога засталося сярод нас іх, былых членаў Беларускай сялянска-рабочай грамады, але справа, за якую яны змагаліся, перамагла і неўміручай стала памяць пра іхні подзвіг...

Па ініцыятыве ваяводскай партыйнай арганізацыі 13 снежня 1985 года ў Ваяводскім камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі адбыўся ўрачысты сход у сувязі з 60-годдзем Беларускай сялянска-рабочай грамады. Прынялі ў ім удзел былыя члены Грамады, ветэраны рабочага руху, дзеячы палітычных і грамадскіх арганізацый, прадстаўнікі рабочых з Гайнаўкі, Гарадка, Міхалова і іншых асяродкаў, сяляне з вёсак, дзе асабліва актыўна дзейнічалі грамадаўскія гурткі, вучоныя, журналісты. Адкрываючы ўрачыстасць, сакратар ВК ПАРП др Мікалай Казак падкрэсліў, што дзейнасць Грамады — гэта адна з найпрыгажэйшых старонак у змаганнях за ўладу працоўных у нашым рэгіёне. Затым прадставіў вядучага знаўцу Грамады ў Народнай Польшчы — навуковага працаўніка Акадэміі грамадскіх навук дац. др. Генрыка Цімэка, які выступіў з дакладам пра ролю Грамады ў гісторыі рэвалюцыйнага руху Польшчы і Еўропы.

Дац. Г. Цімэк у сваім глыбокім дакладзе, між іншым, падкрэсліў, што рэвалюцыйны рух у былой Заходняй Беларусі прайшоў доўгі і геройскі шлях. Працоўныя гэтага краю, асабліва беззямельнае і малазямельнае сялянства і рабочыя, жылі ў страшэнных нястачах з-за беспрацоўя і беззямелля. Буржуазны ўрад не толькі не спрабаваў палегчыць іх лёс, але штораз узмацняў сацыяльны і нацыянальны прыгнёт. З бежанства ў глыб Расіі, куды выгнала І сусветная вайна большасць насельніцтва Заходняй Беларусі, яны прывезлі ў родныя вёскі і мястэчкі ідэі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і прыклад змагання за народную ўладу. Шмат сярод іх было актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнай барацьбы,

(Працяг на стар. 6)

## ЛЮДЗІ ЗВЫЧАЙНЫЯ ЁСЦЬ У НАС САЮЗНІКІ

Прыемна сустракацца з даўно знаёмымі людзьмі. Васіля Сегеня ведаю я ад 1967 года, ад таго часу, калі ён пасля заканчэння беларускага класа ў Бельскім педагагічным ліцэі пачаў працаваць настаўнікам беларускай мовы ў Старым Корніне на Гайнаўшчыне. Гэта тады я заахвоціў яго ўступіць у рады карэспандэнтаў „Нівы".

Няраз давялося мне быць у гэтай школе на цікавых урачыстасцях, дзе заўсёды мастацкая частка складалася з беларускага рэпертуару. У свой час аглядаў я там школьную майстэрню,



у якой дзеці пад пільным вокам настаўніка ўласнымі рукамі выконвалі розныя прадметы. У гэтай жа майстэрні быў таксама створаны міні-музей мясцовай матэрыяльнай культуры (мінулай і сучаснай). У гэтым музеі было шмат мастацкай вышыўкі. Апрача таго, тут былі сабраны фатаграфіі і дакументы былых дзеячоў рэвалюцыйнага руху з гэтых ваколіц, а таксама партызанаў ды польскіх і савецкіх салдат, што загінулі ў другой сусветнай вайне.

Пазней Васіль Сегень стаў дырэктарам гэтай школы, шмат увагі прысвячаў ён навучанню беларускай мовы. У школе працаваў ён да 1974 года, пазней на працягу васьмі год быў першым сакратаром гміннага камі-

(Працяг на стар. 4)

нацыйных турмаў і канцлагера ў Бярозе Картузскай Уладзімір Харкевіч з вёскі Міхнаўка, што каля Нараўкі.

У дыскусіі над дакладам, які, як паведаміў сакратар М. Казак, будзе выдадзены спецыяльнай кнігай, выказвалася меркаванне пра неабходнасць стварэння ў Беластоцкім музеі рэвалюцыйнага руху асобнага сталага аддзела, прысвечанага Грамадзе.

У той жа дзень у Музеі рэвалюцыйнага руху на вул. Варшаўскай 37 была адкрыта выстаўка, прысвечаная 60-годдзю БСР Грамады. На ёй прадстаўлены дакументы павятовых камітэтаў і гурткоў Грамады, членскія білеты і здымкі яе дзеячоў, газеты і іншыя выданні ЦК БСР Грамады, публікацыі пра яе дзейнасць. Шматлікіх наведвальнікаў выстаўкі, сярод якіх быў прэзідэнт горада Беластока Тадэуш Начас, знаёміў з экспанатамі выстаўкі, падаючы адначасова вельмі цікавыя звесткі, яе арганізатар і адначасова кіраўнік музея Аляксандр Антанюк.

„Грамадаўскі“ дзень у Беластоку адзначылі газеты і радыё.

**Мікола Гайдук**
Фота аўтара



Пры стэндах выстаўкі ў Музеі рэвалюцыйнага руху.




Былы грамадавец Уладзімір Харкевіч расказвае наведвальнікам выстаўкі аб дзейнасці Грамады ў Нараўскай гміне.

# АЎТАР „ЗАГОНАЎ“ У АЎГУСТОВЕ

Сакрат Яновіч завітаў 7 снежня 1985 года ў вёску Аўгустова каля Бельска. У суботні вечар у мясцовы клуб на сустрэчу з ім прыйшлі сяляне і моладзь з вёскі.

Аўтар прачытаў некалькі сваіх апавяданняў, дзе трапна паказвае розныя аспекты жыцця. Яновіч умее падглядзець паводзіны людзей, заўважыць іх слабасці. Часта ў жаргоннай форме выяўляе заганы людзей, якія глядзяць на свет і жыццё спрошчанымі крытэрыямі. Аўтар расказаў пра літаратурную творчасць. Звярнуў увагу на вартасці ўсяго роднага, блізкага чалавеку, чым трэба ганарыцца. Патрэбная свая годнасць, каб іншыя шанавалі нас. Па просьбе прысутных Сакрат Яновіч падзяліўся ўражаннямі аб паездках за мяжу. Звярнуў увагу, што ў Англіі пабачыў прэстыж працы. Добрасумленная праца там у пашане, на жаль, у нашай краіне з гэтым бывае па-рознаму. Прытым заўважыў, што ў высокаразвітых індустрыяльных краінах пануе ашчаднасць у гаспадарцы і штодзённым жыцці людзей. Адначасова падкрэсліў і тое, што наша зямля многа пацярпела ў гісторыі. Ваенныя завірухі і пажары спустошалі наша дабро, і таму даводзіцца нам больш працаваць. Але кожны народ мае свае здабыткі, якія трэба цаніць.

Пісьменнік знайшоў агульную мову з сялянамі адносна сельскай гаспадаркі і вясковага штодзённага жыцця. Стварыў беспасрэдную атмасферу размовы. Даў некалькі экземпляраў апошняга нумара „Нівы“.

Сустрэча ў Аўгустове была цікавай. Аднак паказала, што дзейнасць Беларускага таварыства ў вясковым асяроддзі патрабуе намаганняў. Людзі адвыклі ад грамадскіх форм культурнага жыцця. У вёсцы ёсць філіял гміннай бібліятэкі. Здзіўляе факт, што сустрэчай з вядомым нашым пісьменнікам не цікавіліся людзі, якія павінны прапагандаваць літаратурную творчасць. Прысутныя ўвачавідкі

(Працяг на стар. 11)

1862 года адбылося ў Мастаўлянах урачыстае асвяшчэнне гэтай царквы. Удзельнічала 12 святароў, 3 дыяканы, епіскап Ігнацій і члены царскага роду. З суседняй Цецяроўкі, што цяпер за рэчкай, у БССР, людзі ішлі з крэсным ходам.

Вестка аб гэтых урачыстасцях дакацілася аж у сталічны Санкт-Пецярбург, адкуль адзін з багатых братчыкаў даслаў у Мастаўлянскую царкву каштоўныя рэчы і святарскую вопратку, абразы і кнігі.

*

Апошні раз наведаў я Мастаўляны ў нядзелю, 17 лістапада 1985 года. Пахадзіў па вёсцы, паўзіраўся на хаты, на панадворкі. Асталося ўражанне даволі сумнае. Вёска Мастаўляны яўна хіліцца да заняпаду. Больш тут пенсіянераў, як дзейсных гаспадароў. Солтыс Сяргей Ляўкоўскі (яму зараз 54 гады) кажа, што хопіць пальцаў на руках, каб пералічыць усіх тых, хто ў Мастаўлянах дабывае хлеб з зямлі. І ён лічыць: Мікалай Сэвер, Анатоль Янушкевіч, Мікалай Баўцюк, Анатоль Рэмжа, Ян Зарэцкі, Сцяпан Зарэцкі, Хведар Гарадзецкі і я, — солтыс адгінае восьмы палец.

— Маладыя не бачаць для сябе тут месца, — уключаецца яго жонка. — Нашы дзеці таксама пасяліліся ў Беластоку.

— А мой брат, што ў Гданьску, — гаворыць солтыс, — калі прыязджае сюды ў водпуск, дык кажа, што і за сто тысяч злотых у месяц не хацеў бы тут аставацца.

*

Адна з прыгажэйшых хат у Мастаўлянах прыкоўвае маю ўвагу. Цэлюся ў яе фотаапаратам. Нейкі селянін стаіць на панадворку і грозна крычыць на ломанай польскай мове, што тут прыгранічная паласа і фатаграфаваць забаронена. Адказваю яму па-беларуску. Найперш бачу здзіўленне, што нейкі гарадскі пан карыстаецца іх роднай мовай, а пасля здагадка:

— А. то вы, мусіць, з „Нівы“? — і твар раз'ясняецца сяброўскай усмешкай. Гэта Сцяпан Зарэцкі, адзін з тых мастаўлянцаў, якія яшчэ трымаюцца зямлі. Сведчыць аб гэтым і новенькі трактар, які красуецца пасярэдзіне панадворка.

— Я сабе купіў „рускі“ трактар, а наш солтыс, значыць, Сяргей Лазоўскі — „польскі“, — кажа гаспадар і зараз жа, уздыхнуўшы, дабаўляе: — Але што тут трактар дапаможа, калі няма ўмоў, каб гаспадарыць! З кожнага боку нас крыўдзяць. Мяне, для прыкладу, пакрыўдзілі ў час камасацыі. Інжынер адабраў агарод, а даў пясок V-VI класаў...

Трудна мне разабрацца ў яго крыўдзе і не дзеля гэтага я завітаў у Мастаўляны. Заглядаю яшчэ ў царкву. Ішла якраз абедня. Людзей, аднак, мала, вельмі мала. І дзесятка не было. Адны старэнькія кабеткі. „Не разжывецца тут святар!“ — падумаў я і маю здагадку са смуткам пацвердзіў ён сам. Айцец Анатолій Меляшкевіч (яму зараз 62 гады) служыць у Мастаўлянах ад 1942 года. Ён з тутэйшых мясцовых сялян.

— У мяне зараз каля 600 прыхаджан, — кажа ён. — Але больш тут цяпер пахаванняў, чым шлюбаў і хрэсьбінаў.

*

Не ўсё паспеў я расказаць аб Мастаўлянах. Шмат бяды і слёз пакінулі тут гітлераўскія акупанты. Неспакойна было таксама і ў першыя гады пасля вызвалення... Але аб гэтым, магчыма, пры іншай нагодзе, а цяпер развітваюся я з мастаўлянцамі словамі Кастуся Каліноўскага: „Бывай здаровы, мужыцкі народзе, жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе!“ Свабоды, поўнай і неабмежаванай, мастаўляне напэўна ўжо дачакаліся. Толькі невядома, як справа з гэтым шчасцем...

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## Сустрэча ў варшаўскім клубе

Першая аўтарская сустрэча Надзеі Артымовіч адбылася 8 снежня 1976 г. у варшаўскім клубе БГКТ. Ужо тады было заўважана непаўторнае паэтычнае майстэрства паэтэсы.

Ад таго часу мінула 9 гадоў. Многае змянілася і ў жыцці паэтэсы, і ў беларускім асяроддзі ў сталіцы, дзе паэтэса тады жыла. Надзея Артымовіч прынята ў Саюз польскіх пісьменнікаў, мае значныя творчыя дасягненні. Гэтыя гады не песцілі яе спрыяючымі промнямі, не скупілі перажыванняў. Вярнуўшуюся з „неспакойных дарог“ у „сваё гняздо“, „краявід прывітаў градам поту“. Аднак „у блізкіх крыніцах пульсуе чыстая вада“. Вершы Артымовіч з'яўляюцца люстрам яе перажыванняў. У іх бачым складанасць чалавечага лёсу, меру вартасці жыцця. Аўтарка паэтычнымі сродкамі паказвае сваю ўражлівую душу на фоне акружаючага свету. Той, хто ўважна цікавіцца паэзіяй Артымовіч і каму не чужая літаратурная творчасць наогул, не мае ніякіх сумненняў адносна якасці яе вершаў.

Варшаўскае асяроддзе беларусаў, якое гуртуецца ў клубе БГКТ на Сенатарскай, мела магчымасць паслухаць паэзію Надзеі Артымовіч і падзяліцца ўражаннямі аб ёй. Тут 5 снежня 1985 года прайшла яе аўтарская сустрэча. Сярод прысутных два пакаленні беларусаў, што жывуць у Варшаве: і тыя, якія памятаюць паэтэсу з першых гадоў яе творчасці, і студэнцкая моладзь, якая сама шукае літаратурных узораў. З уводным словам выступіў і вёў сустрэчу вядомы паэт Віктар Швед. Ён звярнуў увагу на асаблівасці паэзіі Артымовіч, што ўзбагачаюць літаратурную мову „белавежцаў“. Прадставіў постаць аўтаркі, якая пачала пісаць у Варшаве, калі была студэнткай беларускай філалогіі.

Вершы чытала сама аўтарка на змену з Янкам Морданем у форме паэтычнага дыялагу. Творы былі напісаны ў апошнія гады. Вызначаюцца далейшым ростам майстэрства слова і глыбінёй філасофскага роздуму.

Затым разгарнулася цікавая дыскусія. Сведчыла яна аб добрым успрыманні паэзіі маладымі людзьмі, абазнанымі з беларускай, а таксама польскай літаратурай. Трапна заўважалі адметнасць паэтычнага зместу вершаў Артымовіч. Звярнулі ўвагу на беларускую душу творчасці аўтаркі. Сустрэча і абмен поглядамі паказалі, што параўнанні з сучаснай польскай паэзіяй (Ваячэка, Стахуры ці Пасвятоўскай) гэта толькі спрошчванне ці суб'ектыўнасць крытыкаў. Сучасная форма і стыль выплываюць з уласных крыніц. Няма тут бескрытычнай пагоні паэтэсы за модай бунту, крыклівасці ці асуджэння навакольнага свету. Характэрнае ў яе творчасці інтэлектуальнае асэнсаванне свайго месца ў свеце, роздумы над аспектамі псіхафізічнага існавання чалавека. Прытым паэтэса пазбягае непатрэбных слоў і ўстарэлых фраз.

**Е. Хрысцінін**




У многіх вёсках, між іншым, і ў вёсцы Вітава, старэйшая каравайніца пасля ўступнага вымяшання цеста, дзяліла яго на столькі частак, колькі было каравайніц. Кожная з іх абрабляла сваю порцыю і перадавала яе суседцы. Такім чынам кожная порцыя тры разы абходзіла вакол стала праз дванаццаць пар рук. У канцы працэса старэйшая каравайніца збірала ўсе порцыі цеста, спалучала ў адну цэласць, укладала яго ў дзяжу, выгладжвала і рабіла зверху знак крыжа.

Пасля гэтага ўсе жанчыны бралі ў рукі дзяжу і супольна ставілі яе на цёплую печ.

Скончыўшы гэты этап падрыхтоўкі каравая, каравайніцы сядалі за стол, частаваліся, сімвалічна выпівалі, вялі размову на тэму формы каравая. Пры гэтым многа спявалі. Амаль усе песні тэматычна былі звязаны з караваем. Вось некалькі тэкстаў з раёна Нараўкі:

Маці цэлу ночку хадзіла,
Каравайніцы будзіла:
— Каравайніцы, мае
прыяцелькі,
Прыдзеце да маго дзіцяці,
Каравай гібаці.

* * *

Ходзіт (імя) коло стола
І каравайнічок просіт:
— Каравайнічкі мае мілые,
Рабеце, не марудзьце!
У мане роду німало,
Каб усім каравайчыка стало.

Варта падкрэсліць, што ў каравайных песнях выступае вельмі разбудаваны культ каравая. У многіх тэкстах людзі, у тым ліку таксама і маладая пара, зыходзяць зусім на далейшы план, уступаючы месца галоўнаму „герою“, якім з'яўляецца каравай. У народных уяўленнях каравай асацыяваўся галоўным чынам з сонцам, гэта значыць з крыніцай жыцця на Зямлі. Адгэтуль быў толькі крок да постаці Бога, якога народная фантазія ўключала ў непасрэдны працэс падрыхтоўкі каравая. У гэтым аспекце вельмі характэрная песня з Зубава:

Над садком сонціе вісіт,
Сам Бог коровай міесіт,
Анёлы воду носят,
Прэчыстой Девы просят...

Характэрна, што на гэтым этапе падрыхтоўкі каравая ўдзельніцы абрада ўжывалі толькі малыя колькасці алкаголю або пазбягалі яго ўвогуле.

Калі аказалася, што цеста адпаведна вырасла, каравайніцы здымалі дзяжу з печы і вывярочвалі яе над сталом уверх дном. Цяпер наступаў найбольш адказны момант адпаведнага ўфармавання каравая. Найчасцей, як мы ўжо гаварылі, каравай фармаваўся пад сонца, апаясанае пляцёнкай, якая сімвалізавала дзявочую касу або пярэвясла з каласоў.

Я. Карскі сцвярджае, што ў некаторых раёнах Беларусі каравай выступаў у цынічных формах, якія былі грубым намёкам на інтымныя часткі жаночага і мужчынскага цела. З амаль ста вёсак, агорнутых нашымі даследаваннямі, толькі адзін жыхар Махнатага пацвердзіў апінію Карскага. З гэтага вынікае, што такія формы каравая на Беласточчыне не паяўляліся або выступалі так даўно, што памяць аб іх не дайшла нават да пакалення найстарэйшых жыхароў Беласточчыны. Зразумела, што цынічныя формы каравая былі намёкам на тое, што чакае маладую пару ў шлюбную ноч. Такая трактоўка некаторых вясельных рэквізітаў як бы і натуральная. Аднак, з другога боку, сварыцца яна з адвечнай трактоўкай хлеба-пірага як чагосьці святога.

**А. Баршчэўскі**




2

**Абутак** — абувацца — лічыш, што табе лепш па-за домам, як дома; цесны — прыгнёт і праследаванне; новы — прыхільнае прадказанне; латаць яго — благі маёмасны стан; купляць — цябе чакае падарожжа; чысціць — добрыя заробкі; згубіць падэшву — прыкрая сітуацыя.

**Абцугі** — прычынішся да шлюбу; мець іх — здрада.

**Абымаць** — бацькоў — здрада; сяброў — ашуканства; незнаёмых — ад'езд; жанчыну — шчаслівы лёс; моцна ахопліваць рукамі — шчасце ў каханні.

**Аб'ява** — дарэмныя старанні.

**Аб'язджаць коней** — вялікія даходы.

**Абяцаць** — расчараванне; табе абяцаюць — не стрымаеш дадзенага слова.

**Абіўшчык мэблі** — будзе візіт, якога не спадзяешся.

**Авечкі** — здароўе і шчасце; абстрыжаныя — даход; пасвіць — багацце; скачуць — мілая кампанія; белыя — верныя сябры.

**Авёс** — старанні ўзнагароджаны; есці — здароўе.

**Агаляць** — непрыемна закрануць чые-небудзь пачуцці.

**Агарод** — працаваць у ім — фальшывыя дарадчыкі; з кветкамі — будуць дзеці; занядбаны — даход; за плотам — адкінутая просьба.

**Агароднікам быць** — клопаты і засмучанасць.

**Агародніну есці** — з вялікімі цяжкасцямі пераможаш перашкоды; гатаваць — непрыемнасці ў сям'і; садзіць — здзяйсненне зычанняў.

**Агіду адчуваць** — жыць у цяжкіх варунках.

**Агляд лекара** — сумны выпадак.

**Агонія** — быць у ёй — перад табой працяглы час удачаў і поспехаў.




### ТРАГЕДЫЯ

На Курашаўскай калёніі на поўнач ад вёсачкі Волька жыве ўдава. Застаўшыся з малымі дзецьмі, Зіна не паклала рук. Хоць цяжка было, але абрабляла яна сваю шасцігектаровую гаспадарку, даглядала дом і поле. Працавала для дзяцей, з думкай, што, калі яны падрастуць, то жыццё палепшыцца. Пасылала іх у школу ў Навакорнін, адлеглую на 3 км. Закончыўшы пачатковую школу, дзеці пайшлі вучыцца далей. Старэйшая, Валя, закончыла вышэйшую школу і цяпер працуе ў Беластоку ў бальніцы. Тамара таксама вучыцца ў Беластоку ў адзяжовым тэхнікуме.

19-гадовы Юрка вучыўся ў Гайнаўцы ў прамысловай школе. Кожны дзень прыязджаў дадому, памагаў у гаспадарцы, араў, касіў. Свайго трактара Зіна не мела, дык Юрка пазычаў у сваякоў. Быў хлопцам энергічным, разбіраўся ў машынах, у электрычнасці і гаспадарцы. Нават з дзяржаўнага фонду ўзяў 2 гектары. Маці цешылася, што гаспадарка мацнее і жыццё паляпшаецца.

І раптам усё абарвалася. Прамыслоўка ў Гайнаўцы высылала вучняў у Бельск, на нейкія тэарэтычныя ўрокі. Паехаў і Юрка. Да ад'езду дадому трэба было чакаць гадзіну, і Юрка рашыў пахадзіць па горадзе. А была гэта 21 гадзіна вечара. Пераходзіў хлопец вуліцу і папаў пад грузавік. Хуткая дапамога адвезла яго ў Беласток, але ўжо ніхто не змог выратаваць хлопца. Раніцай Юрка памёр.

Гэтая трагедыя разнеслася па ўсёй ваколіцы. На пахаванне прыехаў дырэктар школы, з'ехалася моладзь, якая на плячах несла труну аж на могільнік.

**Мікалай Тэляшэўскі**

*Куток практычных ведаў*

### БРУДНЫЯ СЦЕНЫ

Забруджаныя сцены можна пачысціць так. Закіпяціце літр вады, дадаўшы ў яе 40 гр. меднага купаросу (siarczan miedzi) і 10 гр. квасцоў (ałun), усыпце 750 гр. мукі і вымешайце ўсё драўлянай лыжкай. Выламжыце масу на дошку і дадайце яшчэ 750 гр. мукі. Калі вымесіце, атрымаецца густая паста. Раздзяляйце яе на шарыкі і пратрыце імі сцены, а пасля абмахніце сухой анучай.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



**Юрка Баравік, вучань першага класа ў гайнаўскай школе № 2, усім вельмі цікавіцца. Асабліва яго захапляе ўсялякая тэхніка. А свет для яго — невычэрпная крыніца цікаўнасцей. Фота. Я Чэрнякевіч**

**В. Мядзведзеў**

## ХЛАПЧУКОЎСКАЯ СІЛА

У ноч пад Новы год сыпаў снег. Да раніцы ён заваліў увесь двор белым пакрывалам. Па снезе бегалі хлопчыкі і дзяўчаткі. Брат з сястрою, Міша і Маша, таксама выбеглі ў двор і пачалі ляпіць снежную бабу.

Міша з Машай — брат і сястра не звычайныя, а блізняты. Калі іх паставіць побач — яны як адбітак у люстры. Аж дзіўна, як яны падобныя.

Яшчэ ўчора яны падрыхтавалі для снежнай бабы дзіравую каструлю і морквіну. Усё гэта паклалі на лавачку, а самі пачалі катаць тоўсты снегавы камяк для тулава. Іншыя дзеці ім пачалі адразу дапамагаць. І Коля памагаў, і Толік, і Зіна, і Кася. Толькі адзін Сярожка перашкаджаў.

Міша і Маша не любілі Сярожку. Асабліва не любіла Маша, таму што Сярожка, калі Міша куды-небудзь адыходзіў, абавязкова стараўся падставіць Машы падножку.

Вось і сёння, калі ўжо амаль зрабілі вялікі снегавы ком, Сярожка падставіў нагу Машы, і тая ўпала на тулава снежнай бабы. Тулава рассыпалася. Трэба было пачынаць усё ад пачатку.

Міша тут жа паклікаў сястру набок.

— Папярэдзь яго, — сказаў ён, — што калі ён яшчэ раз так зробіць, дык ад цябе дастане!

— А як можа ён ад мяне дастаць? — ціха спытала ў свайго брата Маша.

Міша пачаў нешта шаптаць сястры на вуха.

А прыдумаў Міша вось што, каб раз і на заўсёды адвучыць Сярожку ад задзірыстасці. Ён запрапанаваў Машы пайсці дадому і пераапрануцца ў яго адзежу, а Міша надзене на сябе ўсё Машына. Так яны і зрабілі. І калі выйшлі з хаты, дык Міша быў ужо як Маша, Маша была ўжо нібы Міша. Але ніхто гэтага не заўважыў.

— Сярожа, калі ты яшчэ раз падставіш мне нагу, дык дастанеш ад мяне! — сказаў голасна Міша, нібы Маша.

Пасля гэтага Маша і Міша пачалі зноў ляпіць бабу. А Сярожка бегаў вакол іх і крычаў, як індзеец:

— Ой, ці бачылі, яна мяне страшыць! Дзяўчо!

З гэтымі словамі Сярожка з усяе сілы разбегся, скочыў рыбкай і плюхнуўся жыватом на снежны камяк. Камяк зноў разваліўся.

— Усё! — сказаў Міша-Маша. — Выходзь на сярэдзіну!

Сярожка спакойна выйшаў на сярэдзіну і падрыхтаваўся да барацьбы. Дзеці адразу акружылі іх. Барацьба пачалася. Сярожка, думаючы, што перад ім стаіць дзяўчынка, пачаў змагацца абы-як, напаўсілы. Міша ж адразу абхапіў Сярожку за талію, прыўзняў і кінуў на снег.

Усе вакол закрычалі, захлопалі і заскакалі. Гэты Сярожка ўсім надакучыў, не толькі Машы. І таму дзеці цешыліся, што яна яго так спрытна перамагла.

— Не лічыцца! — перакрыкнуў усіх Сярожка. — Я змагаўся напаўсілы.

Зноў пачалася барацьба. Міша-Маша зноў моцна ўхапіўся ў Сярожкаву талію і кінуў яго на снег.

Усе яшчэ галасней закрычалі і заскакалі. Сярожка, седзячы яшчэ на снезе з вытарашчанымі вачыма, сказаў:

— Што ж ты раней не казала, што ты такая моцная?

— Таму, — адказаў Міша-Маша, — што Дзед Мароз на Новы год разам з падарункамі мне хлапчукоўскую сілу падарыў!

Пасля гэтага Сярожка супакоіўся. Снежная баба ўсе першыя дні новага года спакойна прастаяла на двары. Машу пачалі называць не інакш, як хлапчукоўскай сілай, а дзяўчаткі, калі ў іх гульні пачынаў улазіць Сярожка, клікалі яе на дапамогу.

**Працяг у наступным нумары.**

## ЧАМУ ЖАБКІ ПЛАВАЦЬ НЕ ЎМЕЮЦЬ?

**Казка**

Убачылі неяк жабкі, што дзеці ў купальных касцюмах купаюцца. Тэрмінова склікалі сход і вынеслі рашэнне:

1. Быць на пляжы жабам гальшом забараняецца.

2. Купацца жабам дазволена толькі ў купальных касцюмах.

Рашыць то рашылі, а дзе ўзяць тыя купальнікі? У іхняй завадзі ні крамы, ні швачкі.

Думалі яны, думалі, як з такога становішча выйсці, і прынялі яшчэ адно рашэнне:

3. Самім абновы пашыць!

Лёгка сказаць: самім! А з чаго? А чым? Пачалі жабак суседзі выручаць. Прынеслі хто што меў.

Павучок прынёс нітак маток. Вадамерка зялёная — сувой палатна бялёнага.

Конікі з нізінкі — швейную машынку.

І Рак рашыў падзяліцца, прынёс нажніцы.

Сталі жабкі старацца. Каторая мерку здыме, каторая палатно кроіць, шые... Адным словам, хоць і марудна, а ідзе справа.

Але тут памагатыя пачалі ўмешвацца:

— Хіба ж так здымаюць мерку? — папракнула Вадамерка.

— Мілая, кроіш не так! — сказаў засмучона Рак.

— А ці гэтак машынкай строчаць? — Конік ажно рагоча...

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б не апусціўся паблізу бусел. Ён адразу ж разабраўся, у чым справа, прагнаў памагатых, а жабкам сказаў:

— Калі самі не ўмееце ні кроіць, ні шыць — няма чаго іншых смяшыць!

Жабкі спалохаліся, далі нырца і да вечара не вылазілі на бераг. Толькі апраўдваліся, то адна, то другая, высоўваючы галаву з вады:

— Ква-ква-ліфікацыя малая!..

Так яны апраўдваюцца і па сённяшні дзень. І без купальнікаў як купаліся, так і купаюцца.

**Яраслаў Пархута**



**Урок беларускай мовы ў чацвертым класе школы № 3 у Бельску. Фота Я. Чэрнякевіч.**

**Рыгор Барадулін**

## ЧЫТАНАЧКА

Першы дождждык,
Мокры дах.
Мы чытаем па складах:
— Да-ра-гі бук-вар,
Бы-вай!
Ты ад-крыў нам
Дзіў-ны край.

Бліснуў гром з-за хмар
Залатой падкоўкай.
Пазнаёміў нас буквар
З вернаю сяброўкай.

Хто любіў яе, таму
Не будзе сумна аднаму.

Не Натачка —
Наталачка —
Завуць яе — чытаначка.

Хмурынка, як праталачка.
Убрала восень гай.
Сцяжынку нам, чытаначка,
Да ведаў пракладай!



## ГУМАР З БАРАДОЮ

### БАГАЦЕЙ

Прыйшла дачуся з гулянкі ды й расказвае маці:

— Сёння з горада хлопец прыехаў. Увесь вечар каля мяне ўвіваўся. Казаў, што ў яго ў горадзе аж дзве лаўкі ёсць.

— Ды што ты кажаш! Глядзі, не выпускай свайго шчасця, — замітусілася маці.

Неўзабаве маладыя пажаніліся. Прыехалі ў горад. Завёў муж маладую жонку ў хату, а беднасць так з усіх куткоў і свеціцца.

— А дзе ж твае лаўкі? — пытае жонка.

— А вось адна, а вось другая, — паказвае муж на два ўслоны, што стаялі ў хаце.

### НАШЫ ДЗЕЦІ

— Маманька, можна мне пайсці пагуляць?

— З такімі бруднымі вушамі?

— Не, з маімі сябрамі.

З чаго смяюцца суседзі.




# НІЎКА

ФАЛЬКЛОР

### РАЗБАГАЦЕЛА
(жартоўная)




Захацела стара баба да й разбагацеці —
пасадзіла курачку, кабы мела дзеці.
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!
Дай бабе на бяду, дай бабе на гора —
выседзела ціплянят усёго толькі трое.
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!
Ой, пагнала стара баба ціплянятка пасвіць —
сама села пад кустом кудзеленьку прасці.
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!
Ой, надышла цёмна хмара, стала накрапляці —
стала баба ціплянятка дахат заганяці.
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!
Заганяла, заганяла — двое растаптала,
а на трэця спатыкнулась і сама ледзь не ўпала.
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!
Як узяў стары дзед тонкую дубіну —
пабіў бабе галоўку і да тога спіну.
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!
Каб табе, стары дзед, права ручка ўсохла —
як ты міне аддубасіў, мала я не здохла.
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!
Каб табе, стары дзед, чупрына аблезла —
як ты міне аддубасіў, тры дні на печ лезла.
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!
Ціп-ціп, цюр-ля-лю, ціпа-ціпа, кур!

Ад Монікі Федаровіч, 1922 года нараджэння, вёска Ахрымаўцы гм. Кузніца Беластоцкая, запісаў 29 верасня 1985 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.



Змяшаўшы чалавека з граззю, сказаў, што гразь лекавая.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шатландзец — жонцы:

— Спадзяюся, што падарунак, які я збіраюся табе зрабіць, будзе цудоўна глядзецца на тваім пальчыку.

— Дзякуй, мілы, толькі не купляй надта дарагі.

— Ды што ты! Дзе ты бачыла дарагія напарсткі?

*

Танцуюць два гіпапатамы.

— Ты мяне любіш? — пытае гіпапатаміха.

— Вядома! Я ж сёння ўвесь вечар танцую толькі з табой!

— Гэта яшчэ не доказ.

— Не доказ? А ты б паглядзела на сябе з боку!

*

У купэ скорага сядзіць дама. Уваходзіць малады чалавек. Ён сядае побач і пачынае жаваць жавальную гумку. Дама гаворыць:

— Дарэмна вы намагаецеся пазнаёміцца са мною. Я абсалютна глухая.

### ПА ТЭЛЕВІЗАРУ ЛЕПШ

— Вы, дзядуля, учора ў кіно хадзілі, спадабалася? — пытае ўнук.

— Не! — адказаў дзядуля. — Хай яму ліха, па тэлевізару глядзець лепш.

— Чаму?

— Нейкая псіхічная маладзіца ўвесь сеанс у патыліцу мяне тоўкала і шыпела над вухам, бы нанятая: „Не храпіце, дзед, вы ж не дома..."

### З „Весніка Задрыпові"

#### З НОВЫМ ГОДАМ!

З цікавым пачынам выступілі работнікі аднаго з навуковых інстытутаў. Кожны супрацоўнік пасылаў навагоднія прывітанне толькі самому сабе, а падпісваў яго за ўсіх, ад каго чакаў прывітанняў. Сэканомлена дзесяць тысяч чалавекагадзін працоўнага часу, дзве тоны паперы, зніклі крыўды мінулых гадоў, інстытут атрымаў падзяку ад аддзялення сувязі.

#### НАВІНЫ АЦЯПЛЯЛЬНАГА СЕЗОНА

Ці топяць у вас? Як каго.








## КУРЪЁЗЫ

### СЛАВАЮ БАЦЬКІ

Пісалі мы, ўжо, як слава артыста дапамагае рэкламе адэкалону, а адэкалон узаемна павялічвае папулярнасць і славу самога артыста.

Праўда, у шэрагу падобных прыкладаў бываюць выпадкі, калі нават на Захадзе крыецць насамі ад чыйейсьці такой прадпрымальнасці. Так здарылася на пачатку з дачкою знакамітага мастака Пікасо. Нягледзячы на тое, што яна атрымала вялікі капітал у спадчыну і з гэтымі мільёнамі магла б да канца сваіх дзён і дзён сваіх блізкіх весці бесклапотнае і бясхмарнае жыццё, яна вырашыла да неймавернасці павялічыць гэты капітал і пачала аказваць паслугі амерыканскай фірме па праектаванню біжутэрыі, іншымі словамі, усемагчымых і разнастайных пацеркаў. Працэс праектавання пацеркаў бышцам бы дае магчымасць праявіцца не мастацкім здольнасцям, якія таксама ж атрыманы ёю ў спадчыну ад бацькі. Дарэчы, у апошні час яна прапанавала для другой вядомай амерыканскай фірмы ўласную калекцыю дарагіх духоў.

З пункту гледжання куплі-продажу ўсе гэтыя людзі прадаюць за канкрэтныя грошы сваю ўласную славу і папулярнасць. Выключэнне ўяўляе, бадай, толькі дачка Пікасо, якая гандлюе славаю свайго нябожчыка-бацькі.

### З НАМІ

Не памыляецца той, хто выдае памылкі свайго начальніка за свае.